# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 109

Беластоцкія Баяры даюць смак цішыні і спакою — цэнтр горада ўбаку, там лёскат і спешлівасць. У ваколіцы вузенькай Старабаярскай прытаілася мураванка — з глыбокім акном на паддашы. Акно загледзелася ў неба, а неба сіняе-сіняе. А за акном бледны твар

## НОЧ У ХОМЧЫКА

— і вочы, і пытаюцца яны ў неба, і ў самога сябе, што дасць новы дзень.

Гэта мастак Аляксандр Хомчык у сваёй майстэрні.

Коратка аб ім: працуе ад рання да паўночы, бо мастацтва — гэта праца і талент. Праца на першым месцы. Хтосьці сказаў мне — бажуся, забыў хто — што ён патрапіць нават уцячы з бальніцы, каб дакончыць задуманую карціну. Аб працавітасці яго ўзніклі легендачкі ўжо ў Сапоце, у Гданьску, якія, бы хвост, прывалакліся за ім сюды, да нас. І т.д. Аб маладым мастаку пачалі пісаць газеты, паявіліся першыя сімптомы рынку, сімптомы попыту і пагажы, што купляе-губіць талент. І таму, здаецца, уцёк ён у Беласток, да сябе. Дахаты. Да спакою, каб не згубіцца: да ранкаў баяраўскіх, калі чуеш, як ідзе адзін чалавек, як рыпіць снег пад яго нагамі — дзесьці за платамі, дзесьці на Старабаярскай.



**Аляксандр ХОМЧЫК**, нар. у 1941 г. у Паўднёвым Востраве на Сакольшчыне. Вучыўся ў Беластоцкім мастацкім тэхнікуме. У 1965 г. выдатна закончыў сапоцкую Мастацкую акадэмію, як нязменны лаўрэат студэнцкіх штогадовых спецыяльных узнагарод за мастацкія дасягненні.

Кракаўскі клуб «Пад яшчурамі» ўзнагародзіў яго графічныя працы. На Агульнапольскай выстаўцы на ваенную тэматыку атрымаў узнагароду Навучальнай Рады Варшаўскай Мастацкай акадэміі. На Агульнапольскай Марыністычнай выстаўцы таксама ўзнагароджана яго працы. Карціну маладога мастака нядаўна закуплена ў Данію.

Напружана працуе і рыхтуецца да наступных выставак.

Пытаю яго, спрачаюся з ім да слёз. Гэта наша дыскусія.

— Пытаеш, аб чым мару? — ён не любіць гэтага пытання, чамусьці прыпамінае яно яму тое, ад чаго ўцёк. — Мару аб тым, каб пазнаць як найбольш! Ці ўдасца? Раблю і буду рабіць, каб удалося...

— Не так даўно я меў шаснаццаць год і настаўнік паказваў мне «фіялетавыя стагі» Манэ. Ёсць фіялетавыя стагі.

— Не так даўно зрэшты меў я і пяць год, і бацька даваў мне маляваць каляровыя кветкі, і ніколі не дамагаўся ад мяне прафесіі ні інжынера, ні лекара. Днямі і вечарамі маляваў я аж зразумеў, што на свеце растуць не толькі яблыні, грушы, бульба, агуркі. На лугах падлесных мноства кветак, яшчэ больш іх на свеце цэлым. Але найпрыгажэйшыя яны каля Вострава Паўднёвага, каля роднай мясціны на Сакольшчыне. Ёсць найпрыгажэйшыя. А найлепшай настаўніцай на свеце была пані Гэня, яна навучыла мяне, што таксама важна: лічыць пяць у пяць, чыста пісаць, мець абложаную кніжку — як усенька важнае, нічога няма няважнага. Лепшай ад яе настаўніцы няма.

— Пытаеш пра мае планы? Хачу прайсці ад краю да краю гісторыю мастацтва, бо гісторыя яго дае паняцце аб прыгажосці — і сэнсе прыгажосці. І сэнсе прыгажосці. Буду рабіць усё, каб пазнаць як найбольш! Не тавары, што кажу баналы; не перабівай мне, што паўтараюся я. Не раздзяляй таго, што нераздзельнае...

Гэта была наша непраспаная ноч.

**Сакрат Яновіч**

фота: **Я. Нехвядовіч**



**Карціна А. Хомчыка з апошняга Белавежскага пленэра.**

* ✲ *

На небасхіле лесу готык.
А я іду папросту ў гушчу,
Пад лесу царскія вароты,
Да хараства імкнуся пушчы.

І заглядаюся ў крыніцы —
У крышталічным ізумрудзе.
Кадзільны арамат жывіцы
Струменіцца бясконца ў грудзі.

Не моўкне гоман шматгалосы,
Спеў жыхараў лясных парогаў,
Што падымаюць пад нябёсы
На крылах радасць і трывогу.

Пазнаць бы дрэва ў пушчы ценю,
Што дасць мне дошкі пасля скону.
Прад ім упаў бы на калені
І цалаваў бы, як ікону.

Мо лепш на вечны адпачынак
З карэннем дрэваў мне зрадніцца,
Магутнай прарасці ялінай
І ап'яняць людзей жывіцай.

**Віктар Швед**

Ляжу на лузе і думаю аб тым, у які бок круціцца Зямля. Бачу самалёт на небе, устаю з зямлі і, падымаючы рукі, крычу: гэй, гэй!

Аж спалохалася карова...

І здалося мне, што самалёт апускаецца, хоча ўпасці проста на галаву — уцякаю і хаваюся ў яму.

— Божа! Што будзе!?




І карова прападзе, і бацька налупіць дзягаю.

Гэта было даўно.

Учора споўнілася мне трыццаць год і я піў віно з сябрамі. Выйшлі мы на балкон — і ўбачыў я на небе паласу ад рэактыўнага самалёта. А ў транзістары заціхла музыка і спакойны голас з Варшавы гаварыў аб налётах на Ханой. І падумаў я па-п'янаму:

— А мо заўтра скінуць атамную бомбу?

— Уцякаць, ці не?!

Страх дзяцінства варочаецца.

**Эдвард Ярашэвіч**

## СМЕРЦЬ ВЕПРУКА

Па-кашачы заенчылі дзверы —
Каморка каўбасой аддыхала:
Вяпрук дзве-тры таму нядзелі
Раздвоіўся на мяса і на сала...

Раз'ехаўся у хаце пад нажамі,
Адпала галава, цёплая вантроба
упала ў міску. Кот піў кроў, бо
іншае ўсё вышэй ляжала.

Кішкі пераліваліся ў балею,
Ў патэльні свежына збіралася ў скваркі...

Ніводнай смерці ў нас няма без чаркі!
Наліце шчэ — мы нарадзіліся свінёю.
Яшчэ, яшчэ наліце гэтакай атруты;
Мы свінкі. І без іх нічога мы не варты.

Сюды на стол — вэнджаныя путы,
Хай зацалуем сальцэсонаў кшталты!

А салам мы намажам дзверы,
Каб так страшэнна не скрыпелі.
Бо гэты скрып — не іначай
Гучыць, як гімн на смерць свінячу.

**І. Чыквін**

У тваім каханні я не бачу болю
і таму не будзе тваё шчасце поўным
смутак у каханні — элемент галоўны
у тваім каханні я не бачу болю
без якога шчасця не было ніколі
боль і радасць мусяць спалучыцца
кроўна
у тваім каханні я не бачу болю
і таму не будзе тваё шчасце поўным



Каб мог жыццё пачаць аднова,
пачаў бы ад касы і плуга,
зямлі астаўся б шчырым другам.
каб мог жыццё пачаць аднова,
зямлю я славіў бы не словам,
а толькі мускулаў натугай.
каб мог жыццё пачаць аднова,
пачаў бы ад касы і плуга.



Няпраўдай цэлы свет абыдзеш,
але назад не прыдзеш болей,
загінеш недзе ў чыстым полі.
няпраўдай цэлы свет абыдзеш
ды кожны скажа, што ты злыдзень,
мана не дасць шчаслівай долі.
няпраўдай цэлы свет абыдзеш,
але назад не прыдзеш болей.



Даўней глядзела толькі на мяне
цяпер глядзіш ты часта на другіх
не кажаш мне: адзіны дарагі
даўней глядзела толькі на мяне
каханне мабыць хутка праміне
разыдзецца як па вадзе кругі
даўней глядзела толькі на мяне
цяпер глядзіш ты часта на другіх



Як лань прыходзіць да крыніцы
так да цябе прыходжу сёння
каб піць з празрыстай ціхай тоні
як лань прыходзіць да крыніцы
прыходжу я каб весяліцца
каб шчасця зачарпнуць далоняй
як лань прыходзіць да крыніцы
так да цябе прыходжу сёння



Усё жыццё я расцвітаў,
але квітнець не давялося,
з вясны я скочыў проста ў восень.
усё жыццё я расцвітаў
ды летняй радасці вітаць
ніколі мне не давялося.
усё жыццё я расцвітаў,
але квітнець не удалося.



Сляза пасеяная вокам
цяжэй чым велічнае мора.
у ёй цяжар бязмерны — гора,
сляза пасеяная вокам
замкнула цэлы свет шырокі
і боль, і жаль, і плач, і горыч —
сляза пасеяная вокам
цяжэй чым велічнае мора.

**Алесь Барскі**

 

# №3 — гэта беларуская

У Бельску Падляшскім ёсць пачатковая школа, якой улады надалі чарговы нумар — 3. Школа існуе даўно, бо аж ад 1949 года, адначасова маладая. Маладая з чыста фармальных прычын. Некалькі год таму назад асветныя ўлады дайшлі да вываду, што неабходна аддзяліць пачатковыя класы ад беларускага ліцэя, і такім чынам арганізавалася ў Бельску **пачатковая школа № 3,** дзе дзеці вучацца беларускай мовы пачынаючы ад II-га класа. I хай зацікаўлены сённяшнім рэпартажам не падумае, што бел. мовы вучацца тут толькі дзеці беларусаў. У школе налічваецца да 30 дзяцей, якіх бацькі з'яўляюцца палякамі і яны не маюць ніякіх сямейных сувязей з беларусамі. А міма таго і бацькі і дзеці палюбілі ім чужую, але блізкую мову. Каб далей не разводзіцца, хочацца падкрэсліць, што беларуская школа № 3 з'яўляецца адзінай **гарадской** пачатковай школай, у якой усе дзеці вучацца беларускай мовы. Адважуся сказаць, што гэта адна з найпрыгажэйшых школ, якая дасягае вельмі добрых вынікаў навучання. А гэта хіба асноўны крытэрыум працы кожнай школы.

Школай кіруе энергічны, малады, але вопытны педагог **Ян Суліма,** які вельмі дбае аб дыдактычны і выхаваўчы ўзровень школы.




**У класа-кабінеце беларускай мовы.**



**Кіраўнік школы Ян Суліма.**

Настаўніцкі калектыў таксама малады, але амаль усе настаўнікі маюць закончаныя вышэйшыя школы або настаўніцкія студыі.

Каб не быць галаслоўным, трэба сказаць, што школа на працягу паўтара года амаль поўнасцю абяспечылася ў новыя навуковыя дапаможнікі для ўсіх прадметаў, новую мэбліроўку і абсталяванне. Гэта прычынілася да паляпшэння вынікаў навучання, перад усім па матэматыцы ў V, VI, VII класах. Паказчыкам гэтых вынікаў навучання з'яўляюцца ў пэўнай меры школьныя алімпіяды па матэматыцы. I так, у мінулым годзе на павятовай алімпіядзе вучаніца VII класа Ліза Жукоўская заняла I месца, а яе сяброўка Аня Артысевіч — IV. Безумоўна, нельга пры гэтым не ўспомніць аб выдатнай працы настаўніцы гэтага ж прадмета **Любы Ігнацюк.** Зрэшты, школа была візітавана педагагічнымі працаўнікамі Куратарыі, якія вельмі добра ацанілі працу школы.

Зараз школа ў пэўнай меры рэарганізуецца пераходзячы з класнай сістэмы ў сістэму кабінетную. Ужо прышлося бачыць кабінеты польскай, беларускай і рускай моваў. Гэтыя кабінеты іменна і будуць не толькі дапаможнікам настаўніка ў дыдактычным працэсе, але і каралеўствам вучняў — любіцеляў даных прадметаў.

Паколькі школа працуе ў спецыфічным беларускім асяроддзі — гарадскім, у плане працы ставіць прывіванне любві да беларускаі мовы не толькі вучняў, але і бацькоў. Каб гэта здзейсніць школа ў гэтым годзе рыхтуе, напрыклад, артыстычную частку на ёлку амаль поўнасцю на беларускай мове.

З візітам на ўрок практычна-тэхнічных заняткаў у VIII клас давялося трапіць выпадкова. Сядзелі мы з кіраўніком школы ў яго кабінеце, аж нечакана з'явілася вучаніца і прынесла, нас пачаставаць, цудоўнае шакаладнае пячэнне.

— А гэта восьмы клас, дзяўчаты, самі такія рэчы робяць на практычна-тэхнічных занятках, гаворыць усхваляваны нечаканасцю Я. Суліма. Я проста забыўся, што сёння аўторак, а яны ж кожны амаль тыдзень у гэты дзень нешта такое робяць і мяне і іншых настаўнікаў частуюць.

Чым хутчэй мы пайшлі ў памяшканне, дзе адбываўся ўрок. Тут сапраўды, як у гаспадарчай школе, настаўніца **Надзя Цар** у белым фартуху, дзяўчаты ў белых касынках і фартухах, а на сталах ласункі.

— Фактычна ў нас не адна зала. Для нашых патрэб прыстасавана школьная кухня, без якой мы мала што маглі б зрабіць, — гаворыць настаўніца.

Не малыя дасягненні школа мае і ў спорце. Адна са сцен калідора прысвечана дыпломам спартсменаў школы, і іх тут многа. А трэба дадаць, што да мінулага года школа амаль зусім не прыймала ніякага ўдзелу ў спартыўных мерапрыемствах. Гэта толькі жменька слоў аб пачатковай школа №3 у Бельску — школе беларускай.

**Аляксей Карпюк**
фота аўтара



**Восьмы клас на практычна-тэхнічных занятках.**

# ПАМІЖ КРЫНКАМІ І КРУШЫНЯНАМІ

У Крушынянах налічваецца каля 130 сямействаў, з таго 14 сямействаў мусульманскіх. Хрысціянскую частку вёскі больш - менш напалам складаюць праваслаўныя і каталікі. Такім чынам у Крушынянах пражывае аж тры веравызнаўчыя групы: праваслаўныя, каталікі і мусульмане (татары).

Цікавяць мяне суадносіны, сужыццё гэтых веравызнаўчых груп. Найбольш замкнутай у сабе з'яўляецца група мусульман. Жаніцьбы і сваяцтвы крушынянскіх татар надалей абмяжоўваюцца толькі да ўласнай групы. Падобна ізаліраванае ад сувяскоўцаў маладзёжнае жыццё крушынянскіх мусульман. Хаця ёсць іх тут нямнога, арганізуюць ва ўласным кругу танцавальныя забавы, на якіх гуляюць паводле ўласных звычаяў. У Крушынянах кажуць, што звычаі гэтыя больш культурныя, чымсці ў хрысціян. У суседскіх адносінах масцовыя татары — суседзі добрыя і прыемныя. Крушынянскія мусульмане — народ гасцінны. На сваё свята, байрам, кожны з іх запрашае да сябе ў госці ўсіх суседзяў незалежна ад веравызнання. Суседзі ахвотна карыстаюць з гэтых запрашэнняў. Самі мусульмане таксама ахвотна наведваюць сваіх суседзяў — праваслаўных і каталікаў.

Сярод гэтых апошніх няма ў вясковым жыцці аніякіх размежаванняў. Святкаванні, як вядома, адбываюцца ў розных тэрмінах, але моладзь святкуе адны і другія святы. На каляды ходзяць «калядзнікі» — разам дзеці каталікаў і праваслаўных, спачатку да першых, а за два тыдні да другіх. У каталікаў спяваюцца польскія калядныя песні, у праваслаўных — рускія.

Быў калісьці ў Крушынянах цікавы велікодны звычай — так званая «канапелька». Моладзь хадзіла ды спявала старыя народныя песні. Было гэта даўно. Зараз моладзь перастала спяваць канапельку. Сабраліся аднойчы старыя сябры ды задумалі прыпомніць стары народны абрад — пайшлі па вёсцы спяваць. Са здзіўленнем сцвердзілі, што старыя сяляне, якія калісьці багата дарылі спевакоў, цяпер прымаюць іх без энтузіязму — больш за ўсё неахвотна. Адзін паважаны селянін заявіў нават уголас:

— Як вам не сорам, старым коням, так выдурняцца!

Ад таго часу ніхто ўжо не пробаваў аднаўляць канапельку.

Бо так яно ўжо ёсць на свеце, што старына адыходзіць у небылое гурбою, адыходзяць рэчы, якіх адыход нас цешыць, і тыя, якіх нам шкада ці проста жаль. Інакш, аднак, быць не можа. Крушыняны не з'яўляюцца ўжо закінутай адасобленай вёскай, у якой абрад быў бы як даўней, правам вясковага жыцця. Аўтобусныя шляхі спалучаюць Крушыняны з шырокім светам. Перад усім, аднак, аўтобус спалучае Крушыняны з Крынкамі. Крынкі — гэта асада, якая нягледзячы на ўсе адміністратыўныя дэкрэты ўпарта лічыць сябе горадам.

З вёскі, якая ў нейкай ступені хацела б нават астацца вёскаю, еду ў вёску, якая ў сваёй свядомасці існуе выключна як горад — у Крынкі. Як у кожным горадзе ёсць у Крынках гаспода. Займае яна тут прытым цэнтральнае месца не толькі па-свайму размяшчэнню ў цэнтры горада. У гасподзе заўсёды натоўп людзей розных прафесій і слаёў. Зойдзем тады ў гасподу выпіць піва ды перакусіць нешта. Вось хаця б кавалак «жэбэрка». Піва як піва, затое мяса не надта прыемным сваім пахам здаецца сведчыць аб тым, што варана яно прынамсі месяц таму назад.

На крынкаўскіх вуліцах зімовая халодная завея, і падарожніку проста няма дзе схавацца. Крынкаўчане, паміма сваіх амбіцый стацца горадам, не дадумаліся дагэтуль пабудаваць на аўтобусным паўстанку якой-небудзь будкі. На паўстанку дзве гадзіны стаіць аўтобус, у аўтобусе цёпла, шафёр з кандуктаршай жартуе, змёрзлы народ тоўпіцца ля аўтобуса ды цягае за дзверы. Увайсці аднак нельга, у аўтобус пускаюць толькі за 15 мінут да ад'езду. Можна было б зайсці да першага лепшага суседа ды пагрэцца. Хутка аднак сабе ўяўляю, што гэта звычай чыста вясковы, а Крынкі — гэта ж не вёска

**Ул. Паўлючук**

# „ЛЯВОНІХА" НА НОВЫМ ЭТАПЕ

Задумалася мне напісаць аб «Лявонісе» ўра — аптымістычны артыкул. Прычынай гэтаму паслужылі пэўныя новыя факты ў жыцці гэтай папулярнай беларускай эстрады. Новы кірунак, новыя людзі (часткова), новая праграма. Выдаецца, што «Лявоніха» ўвайшла ў новы этап, этап вышэйшы. Здалося мне таксама, што знайшоўся патрэбны такому калектыву чалавек **Юрка Шурбак,** новы кіраўнік эстрады.

Вялікая песенная частка новай праграмы такой цяпер ёсць. Песні гучаць цудоўна! Песні дабраныя трапна і па тэме і па характару. I добра разложаны ў пастаноўцы на галасы.

Мілая сціплая **Марыся Мароз** у сваіх партыях выказвае ўсё вялікае багацце мімікі, жэсту ёй уласцівых — скромных ды цёплых.

**Янка Блізнюк** са сваім мядзведзяватым сілуэтам, тып дасканалы ў характарыстычных песнях у родзе «Машанькі - Дашанькі». Янка Блізнюк — гэта проста ідэальны гумарыст. Некалькі кароценькіх замалёвак у яго выкананні выяўляе нам рэдкія здольнасці. Але кароценькія слоўныя замалёўкі Блізнюка не вырашаюць у эстрадзе ніяк аграмаднай патрэбы ў слове, — сатыры і гумару.

Песні гучаць у новым выданні «Лявоніхі» так добра, што аж патрасаюць. Сам Юрка Шурбак сваім нізкім басам

(Працяг на стар. 7)




## СМЕРЦЬ ГАНКІ САВІЦКАЙ

З канцылярыі Павяка рушыла ў бок «Сербіі» малое шэсце. Спераду вахмайстар Гінц пазвоньваў ключамі. За ім вязні неслі насілкі, а па баках і ззаду крочылі чатыры гестапаўцы. Шэсце прайшло ўздоўж сцен Павяка, ля вокнаў камер, размешчаных пад зямлёю, па вузкім тратуары з бетонных пліт. На нейкі час яно спынілася ля дзвярэй у сутарэнне, на якіх красаваўся надпіс «Трупярня».

Вечарэла. Але бачнасць была добрая дзякуючы пражэктарам, асвятляўшым увесь двор Павяка.

Насілкі рушылі далей. Толькі пад сценамі «Сербіі» згінулі яны ў змроку масіўнага будынка, спаўшага нейкім фальшывым сном, характэрным для турмаў. Потым паказаліся ля дзвярэй у святле электрычнай лямпы, вісеўшай высока над уваходам. Рэзка зазваніў званок. Дзяжурная шпарка адчыніла дзверы і замерла ад жаху.

— У бальніцу...

Хутка адмыкаліся на паверхах краты, і сярод маўчання, тупату ног і бразгання зброі насілкі пайшлі ўгору. Лекаркі яшчэ не спалі. Гестапавец, які ўзначальваў канвой, загадаў прывесці раненую ў прытомнасць, каб яна магла зараз жа даць паказанні. Гаварыў сцісла і катэгарычна.

Ён стаяў над сталом, на якім перавязвалі раненую. Маладзенькая, залітая крывёю, дзяўчына была ранена ў грудзі. Відаць было, што гэта здарылася нядаўна — найбольш гадзіну таму назад. Дзяўчына ляжала без памяці. Доктар Маеўская спыніла крывацёк і наладжыла павязку, якая адразу прасяклася крывёю. Немец нецярпліва і злосна напамінаў, каб яна не займалася глупствам, а старалася прывесці арыштаваную ў прытомнасць.

— Зрабіце ўкол, трэба яе пабудзіць. Патрэбны яе паказанні.

Вязні ўзнялі насілкі і пайшлі назад разам з Гінцам, а гестапаўцы размясціліся ў лекарскім кабінеце, расчыніўшы дзверы наўсцяж. Камандзір упарта стаяў над раненай. Доктар Маеўская паклікала Нану.



 

Ужо ад наступнага нумара пачнем друкаваць аповесць пра драматычныя і няведа-

## ТАЙНА КАНАРЫСА

мыя старонкі другой сусветнай вайны. Аповесць будзе ісці пад загалоўкам «Тайна Канарыса».

### СХОД ЗАСЛУЖАНЫХ

**Згодна з планам працы гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку адбыўся сход старэйшых заслужаных людзей. (Многія з іх ужо пенсіянеры). Сакратар ГП Уладзімір Юзвюк расказаў ім «Аб прыродных умовах паўднёва-ўсходняй часткі Беластоцкага ваяводства», а пасля адказаў ён на многія пытанні сваіх слухачоў.**

**Была таксама абмеркавана справа і далейшых сходаў. (мх)**

### НАРАДА АКТЫВУ

**У Саколцы 20-га снежня адбылася нарада актыву БГКТ, на якой была падсумавана праца аддзела ў 1967 годзе, а таксама прыняты прапановы да плана працы на 1968 год.**

(Працяг са стар. 1)

# З ПАСЕЧНІКАЎ У ЕЎРОПУ

Федзя ад 7-мі год пасвіў кароў, а зімой бегаў у Арэшкава ў чатырохкласную школу, дзе вучыла двух настаўнікаў. Пачатковую адукацыю закончыў ужо пры савецкай уладзе. Гітлераўцы пагналі яго ў Прусію.

Пасля вайны нейкі час Хведар Галёнка працаваў у ПГР-ы Рыбна ў Ольштынскім ваяводстве. Адтуль накіравалі яго ў Варшаву на падрыхтоўчы курс у вышэйшыя школы. Адначасова запісаўся ён на атэстацкі курс, які быў наладжаны ў ліцэі імя Стэфана Баторага. У 1947 годзе меў ужо ў кішэні атэстат сталасці, а 3 гады пазней — дыплом вышэйшай школы.

— Што ж, аб усякіх фрустрацыях і альенацыях — так модных цяпер — мы тады не думалі. Ведалі адно: дзяржава дала нам магчымасць вучыцца, дык неабходна поўнасцю яе выкарыстаць.

Гэты дэвіз стаўся паказальнікам яго дарогі на ўсё жыццё. Атрымаўшы працу ў Галоўнай школе замежнай службы, Хведар Галёнка вучыўся далей. У 1953 годзе абараніў магістэрскі дыплом. Думкі аб навуцы не пакінулі і зараз. Пад кіраўніцтвам прафесара доктара Антановіча рыхтуецца да доктарскай працы па міжнароднаму праву. Глыбока закаранілася ў ім мужыцкая заўзятасць.

Лёгка аб усім гэтым расказваць. А яму ж, юнаку з пушчанскай беднай вёскі, не было каму дапамагаць. Стыпендыі хапала на скромнае харчаванне ў студэнцкай сталоўцы і аплату за інтэрнат. Адкуль аднак грошы на вопратку, на кніжкі і на іншыя патрэбы? Іх прыходзілася зарабляць. Ды да гэтага неабходна дабавіць вельмі шырокую яго грамадскую дзейнасць. Варшаўскія студэнты ведалі яго як выдатнага дзеяча Акадэміцкага саюза польскай моладзі, як члена Галоўнага праўлення гэтай арганізацыі.

З маладзёжным грамадскім рухам не парваў Галёнка сувязей і да сённяшняга дня. Зараз яго захапляе ідэя рабочых універсітэтаў, якія даюць веды шырокім кругам грамадскасці. З'яўляецца ён дырэктарам рабочага універсітэта сталічных кварталаў: Ахота, Сьрудмесце, Макотуў. Ужо ад 1962 года. Філіял гэтага універсітэта дзейнічае ў Арэшкаве на Гаўнаўшчыне.

Гэта цяперашняя грамадская праца. Ды не толькі. Ад пачатку існавання БГКТ ён узначальвае Рэвізійную Камісію ГП БГКТ, уваходзіць у састаў кіруючага актыву Варшаўскага аддзела таварыства.

**Віктар Рудчык**



**Хведар Галёнка (першы справа) на 36 Познаньскай выстаўцы-кірмашы знаёміць: міністра ўнутранага гандлю СССР (другі злева) і віцэ-прэм'ера Зэнана Новака з таварамі фірмы «Універсаль».**




### ГАСПАДАРЧАЕ І КУЛЬТУРНАЕ РАЗВІЦЦЁ БЕЛАРУСІ Ў СКЛАДЗЕ РУСКАЙ ДЗЯРЖАВЫ

Гаспадарка Беларусі

На беларускіх землях, уз'яднаных з Расіяй, урад царыцы Кацярыны II і яе спадчыннікі ўсямерна спрыялі магнатам, заможнай шляхце і духавенству. Праўда, спачатку, каб утаймаваць свавольствы польскіх і беларускіх магнатаў і шляхты, яны насылаюць у Беларусь адданых сабе чыноўнікаў і патрабуюць ад усяго насельніцтва бездакорнай паслухмянасці для дзяржаўных загадаў і непахіснай вернасці царскаму ўраду. Тых, хто спрабаваў супраціўіцца волі цароў, яны жорстка каралі, высылалі ў Сібір, а маёнткі канфіскавалі на ўласнасць царскага двара.

Адначасова цары імкнуліся прыхіліць да сябе польскіх і беларускіх магнатаў, заможную шляхту і духавенства. Гэтыя феадалы мелі і пад царскім панаваннем усе тыя правы, якімі яны карысталіся раней. Каб замацаваць сваю ўладу на Беларусі, царыца Кацярына II і яе спадчыннікі шчодра раздавалі на Беларусі былыя каралеўскія і канфіскаваныя ад паноў маёнткі і сялян, што да іх належалі, сваім вяльможам і дваранам.

Да дробнай шляхты, частка якой змагалася ў арміі Тадэуша Касцюшкі, царызм адносіўся з вялікай падазронасцю і імкнуўся зраўняць яе ў правах з сялянамі.

Царскі ўрад не палепшыў таго цяжкага становішча беларускага працоўнага люду, у якім ён знаходзіўся ў часы Рэчы Паспалітай. Першапачаткова царыца Кацярына II зменшыла беларускім сялянам падаткі, але ў хуткім часе яны былі ўтрая павялічаны. Паншчына заставалася асноўнай формай эксплуатацыі панамі і дзяржавай прыгоннага сялянства. Колькасць абавязковай працы селяніна ў маёнтку пана з кожным годам павялічвалася і даходзіла да 6 дзён у тыдні ад адной сялянскай сям'і. Апрача працы на паншчыне сяляне былі вымушаны плаціць пану чынш грашыма, дзяржаве ўносіць высокія падаткі і ўтрымоўваць закватэраванае на Беларусі царскае войска. Да абавязку сялян належала выкананне розных прац пры будовах і рамонтах панскіх маёнткаў і агульнадзяржаўных пабудовах умацаванняў, дарог і каналаў, перавозіць сельскагаспадарчыя прадукты да прыстаняў на рэках або нават да адлеглых марскіх портаў.

Царскі ўрад набіраў з сялянскіх хлапцоў войска, у якім даводзілася служыць на працягу 25 год.

Памешчыкі імкнуліся павялічыць даходы са сваіх маёнткаў коштам змяшчэння сялянскіх палеткаў і далучэння забранай зямлі і сенажацяў да сваіх маёмасцей. Гэта даводзіла да абеззямельвання сялянства. Колькасць беззямельных сялян «бабулёў» штогод павялічвалася.

Паны мелі права прадаваць сялян без зямлі або здаваць іх у войска.

Беззямеле, недахоп часу на працу на сваім палетку, зменшаная колькасць дабытку, працяглыя неўраджаў давялі да таго, што беларускі селянін еў хлеб вымешаны з паловай і карою. Шырыліся хваробы і эпідэміі.

*(Заканчэнне тэмы за тыдзень)*

— Перанясем яе на ложак у чацвёртую палату.

— Разбудзіць яе, разбудзіць! — крыкнуў немец.

Лекарка ціха адказала:

— Яна не спіць, яна памірае. — Яна лічыла стан хворай безнадзейным і хацела перанесці яе на ложак толькі дзеля таго, каб адцягнуць ад яе гестапаўцаў. З выгляду салдат яна зразумела, што дзяўчыну захапілі яны ў баі і самі панеслі страты ў людзях, прычым здагадвалася, што, апрача раненай дзяўчыны, нікога больш не мелі ў сваіх руках.

— Зраблю ўсё, што я зрабіць павінна, але...

Падмацаваўшы свае словы выразным жэстам, яна пайшла хутка да хворай, якая ўжо ляжала ў чацвёртай палаце. У малым пакоі вязніцы прачнуліся пасля першага сну і, седзячы на ложках, са спагадай сачылі за новай таварышкай.

— Трэба ў іх выпытаць яе прозвішча, — сказала сама сабе доктар Маеўская.

Вахмайстар Гінц у гэты момант ізноў прышоў у бальніцу, і лекарка, узяўшы аловак, падышла да яго, каб запоўніць бальнічны лісток. Яна хутка напісала «Анна Крыстына Савіцкая» і павесіла лісток на ложку.

— Ну і як? — запытаў Гінц, паказваючы на раненую.

— Баюся, што нельга будзе ўжо нічога зрабіць, — сказала лекарка.

Гінц брыдка вылаяўся. У лекарскім кабінеце немцы параскладалі на пісьмовым стале паперы і адзін з іх пачаў пісаць пратакол. Паклікалі з Павяка перакладчыка. Нана зняла малы стэрылізатар з прымуса. Група гестапаўцаў запоўніла палату. Доктар Маеўская, даследуючы пульс раненай, роспачна і рашуча запатрабавала даць ёй трохі часу і спакою. Раненая ляжала нерухома, з пасінелымі губамі, з ценем смерці на твары і з заплюшчанымі павекамі. — А ўсё ж такі... Яна прытомная, — мільганула ў галаве лекаркі...

Гестапаўцы пастаялі момант ля ложка і, заўважыўшы, што раненая не варухнулася пры ўколе, выйшлі, пакінуўшы аднаго на варце. Гінц хадзіў па калідоры. Нана патушыла верхняе святло і запаліла начную лямпачку. Паўцемра ахінула пакой. Запанавала цішыня, якая перарывалася шэптам вязніц. Яны звярнулі ўвагу, што раненую палажылі на тым самым ложку, на якім памерла Крыстына. Але ці гэта мае цяпер якое-небудзь значэнне?

Доктар Маеўская, трымаючы руку на пульсе хворай, схілілася і прыгладзіла ёй ускудлачаныя валасы. Раптам яна адчула на сабе яе цалкам прытомны позірк. Сінія губы заварушыліся.

— Ці вы полькі?

— Так.

З калідора даходзіў водгук крокаў Гінца. Адна з вязніц устала з ложка і стала ў дзвярах.

Ганка Савіцкая напружыла ўсе свае сілы, каб ясна выказаць сваю просьбу.

— Не ратуйце мяне. Дайце мне памерці. Я не хачу даваць паказання.

Доктар Маеўская хацела запярэчыць, сказаць нейкае падбадзёрваючае слова, але адвага і воля гэтай дзяўчына прымусілі яе адмовіцца ад гэтага.

— Каму даць знаць на волі?

Не будучы ў стане гаварыць, раненая адказала позіркам: не. Нана, трымаючы яе руку ў сваёй, запытала мякка:

— Не маеш ніякіх жаданняў?.. Нічога, нікому?.. Ці цябе схапілі ў баі?..

— Мы адстрэльваліся, — прахрыпела раненая.

Доктар Маеўская дала Нане знак і яны адышлі ад ложка. Гінц, выходзячы, моцна стукнуў дзвярыма. Здавалася, што раненая засынае. Лекарка выйшла ў калідор і сказала стаяўшаму на варце гестапаўцу, што раненая знаходзіцца ў безнадзейным стане, але ў выпадку паляпшэння яна павядоміць на Павяк.

— Найн, — адказаў той рэзка і ўсеўся ў калідоры на лаўцы.

Ён і Гінц увесь час зазіралі ў пакой, то голасна тупаючы, то падкрадаючыся на пальцах. Доктар Маеўская і Нана адышлі ад раненай, бо баяліся, што ім загадаюць мучыць яе рознымі лячэбнымі захадамі. Вязніцы ў чацвёртай палаце не маглі заснуць і, нерухома лежачы ў сваіх ложках, пазіралі на Савіцкую. Яны былі здзіўлены тым, што яна не просіць вады, не скардзіцца на боль і не праяўляе слабасці, уласцівай людзям, якія паміраюць.

— Можа яшчэ ачуняе?..

Мінала ноч. Гінц пайшоў у канцылярыю, а гестапавец задрамаў на лаўцы. У чацвёртым нумары жанчыны таксама заснулі трывожным сном і часта прачыналіся. Яны чулі ў глыбокай цішыні хрыплае дыханне хворай

— Паміраю.

Усхапіліся і сталі вакол ложка з інстынктыўнай думкай аб Богу, смерці і страшным судзе.

— Можа Бог яе ўратуе, — думалі яны.

— Маліся, памаліся разам з намі.

— Я не веру... — прашаптала яна з вялікім намаганнем, але выразна.

Яны са страхам пераглянуліся. Тады, быццам бы хочучы ім нешта вытлумачыць, яна вымавіла гэтыя апошнія словы, якія выказалі яе веру:

— Я служыла людзям... і за іх паміраю.

**Поля Гаявічынская**

Урывак з рамана «Крата»

1. Напішыце, якімі рысамі характару адзначалася Ганка Савіцкая.

2. Укажыце ўрыўкі апавядання, у якіх ідзе гутарка пра салідарнасць польскіх жанчын у гітлераўскай турме.



# КАЛЯНДАР „НІВЫ" НА 1968 ГОД



## I. СТУДЗЕНЬ

| Стыль Новы | Стыль Стары | Дні | Праваслаўны |
|---|---|---|---|
| 1 | 19 | П | **Цімафея** |
| 2 | 20 | А | Ігната |
| 3 | 21 | С | Вулляны, Пятра |
| 4 | 22 | Ч | Анастассі |
| 5 | 23 | П | Паўла |
| 6 | 24 | С | Куцця |
| 7 | 25 | Н | **Нарадж. Хр.** |
| 8 | 26 | П | **Другі дз. кал.** |
| 9 | 27 | А | Сцяпана |
| 10 | 28 | С | Агаты |
| 11 | 29 | Ч | Марка |
| 12 | 30 | П | Хвядоры |
| 13 | 31 | С | Меланіі |
| 14 | 1 | Н | **Новы год** |
| 15 | 2 | П | Серафіма |
| 16 | 3 | А | Малахіі |
| 17 | 4 | С | Саб. 70 ап. |
| 18 | 5 | Ч | Апалінара |
| 19 | 6 | П | **Вадохрышча** |
| 20 | 7 | С | Апанаса |
| 21 | 8 | Н | **Юрыя** |
| 22 | 9 | П | Піліпа |
| 23 | 10 | А | Рыгора |
| 24 | 11 | С | Міхала |
| 25 | 12 | Ч | Тацяны |
| 26 | 13 | П | Якава |
| 27 | 14 | С | Ніны |
| 28 | 15 | Н | **Паўла** |
| 29 | 16 | П | Леанілы |
| 30 | 17 | А | Антона |
| 31 | 18 | С | Максіма |

## II. ЛЮТЫ

| Стыль Новы | Стыль Стары | Дні | Праваслаўны |
|---|---|---|---|
| 1 | 19 | Ч | Макара |
| 2 | 20 | П | Яфіма |
| 3 | 21 | С | Максіма |
| 4 | 22 | Н | **Цімафея** |
| 5 | 23 | П | Клімента |
| 6 | 24 | А | Ксені |
| 7 | 25 | С | Рыгора |
| 8 | 26 | Ч | Язэпа, Марыі |
| 9 | 27 | П | Дзмітрыя |
| 10 | 28 | С | Яфрэма |
| 11 | 29 | Н | **Рамана, Якава** |
| 12 | 30 | П | **Трох свяціцелей** |
| 13 | 31 | А | Мікіты |
| 14 | 1 | С | Трыфана |
| 15 | 2 | Ч | **Срэцянне Гасп.** |
| 16 | 3 | П | Сямёна, Ганны |
| 17 | 4 | С | Кірыла |
| 18 | 5 | Н | **Агаты** |
| 19 | 6 | П | Хрысціны |
| 20 | 7 | А | Лукі |
| 21 | 8 | С | Хведара |
| 22 | 9 | Ч | Нікіфара |
| 23 | 10 | П | Валянціны |
| 24 | 11 | С | Уласа |
| 25 | 12 | Н | **Аляксея** |
| 26 | 13 | П | Зоі, Святланы |
| 27 | 14 | А | Кірыла |
| 28 | 15 | С | Ефрасінні |
| 29 | 16 | Ч | Рамана |

## III. САКАВІК

| Стыль Новы | Стыль Стары | Дні | Праваслаўны |
|---|---|---|---|
| 1 | 17 | П | Льва |
| 2 | 18 | С | Архіпа |
| 3 | 19 | Н | **Агафона** |
| 4 | 20 | П | Цімафея |
| 5 | 21 | А | Яўгенні |
| 6 | 22 | С | Палікарпа |
| 7 | 23 | Ч | Тараса |
| 8 | 24 | П | Дзень жанчын |
| 9 | 25 | С | Парфіра |
| 10 | 26 | Н | **Пракопа** |
| 11 | 27 | П | Ціта |
| 12 | 28 | А | Васіля |
| 13 | 29 | С | Эразма |
| 14 | 1 | Ч | Еўдакіі |
| 15 | 2 | П | Фядота |
| 16 | 3 | С | Яўтропія |
| 17 | 4 | Н | **Герасіма** |
| 18 | 5 | П | Конана |
| 19 | 6 | А | Аркадзя |
| 20 | 7 | С | Яўгена |
| 21 | 8 | Ч | Феафілата |
| 22 | 9 | П | **40 мучан.** |
| 23 | 10 | С | Міхала |
| 24 | 11 | Н | **Сафрона** |
| 25 | 12 | П | Феафана |
| 26 | 13 | А | Нікіфара |
| 27 | 14 | С | Бенадыкта |
| 28 | 15 | Ч | Аляксандра |
| 29 | 16 | П | Юльяна |
| 30 | 17 | С | Аляксея |
| 31 | 18 | Н | **Аляксандры** |

## IV. КРАСАВІК

| Стыль Новы | Стыль Стары | Дні | Праваслаўны |
|---|---|---|---|
| 1 | 19 | П | Дарыі |
| 2 | 20 | А | Святланы |
| 3 | 21 | С | Якава |
| 4 | 22 | Ч | Васіля |
| 5 | 23 | П | Нікана |
| 6 | 24 | С | Захара |
| 7 | 25 | Н | **Благавешчанне** |
| 8 | 26 | П | Ірынея |
| 9 | 27 | А | Матроны |
| 10 | 28 | С | Сцяпана |
| 11 | 29 | Ч | Марка |
| 12 | 30 | П | Івана Л. |
| 13 | 31 | С | Веніяміна |
| 14 | 1 | Н | **Вербніца** |
| 15 | 2 | П | Трафіма |
| 16 | 3 | А | Мікіты |
| 17 | 4 | С | Язэпа, Юрыя |
| 18 | 5 | Ч | Хвядоры |
| 19 | 6 | П | Платаніды |
| 20 | 7 | С | Марціна |
| 21 | 8 | Н | **Вялікдзень** |
| 22 | 9 | П | **II дзень Вялік.** |
| 23 | 10 | А | Георгія |
| 24 | 11 | С | Анціпа |
| 25 | 12 | Ч | Васіля, Мілы |
| 26 | 13 | П | Артамона |
| 27 | 14 | С | Антона |
| 28 | 15 | Н | **Трафіма** |
| 29 | 16 | П | Ірыны |
| 30 | 17 | А | Сямёна |

## V. МАЙ

| Стыль Новы | Стыль Стары | Дні | Праваслаўны |
|---|---|---|---|
| 1 | 18 | С | **Свята працы** |
| 2 | 19 | Ч | Хрыстафора |
| 3 | 20 | П | Анастассі |
| 4 | 21 | С | Хведара |
| 5 | 22 | Н | **Лукі** |
| 6 | 23 | П | **Георгія Паб.** |
| 7 | 24 | А | Савы |
| 8 | 25 | С | Марка |
| 9 | 26 | Ч | **Дз. Перамогі** |
| 10 | 27 | П | Сымона |
| 11 | 28 | С | Віталія |
| 12 | 29 | Н | **Мемнона** |
| 13 | 30 | П | Якава |
| 14 | 1 | А | Тамары |
| 15 | 2 | С | Барыса, Зоі |
| 16 | 3 | Ч | Цімафея |
| 17 | 4 | П | Пелагеі |
| 18 | 5 | С | Ірыны |
| 19 | 6 | Н | **Іова** |
| 20 | 7 | П | Акакія |
| 21 | 8 | А | Яна Багасл. |
| 22 | 9 | С | Мікалая |
| 23 | 10 | Ч | Сымона |
| 24 | 11 | П | Мяфодзія і Кірыла |
| 25 | 12 | С | Германа |
| 26 | 13 | Н | **Глікерыі** |
| 27 | 14 | П | Ісідара |
| 28 | 15 | А | Дзмітрыя |
| 29 | 16 | С | Хведара |
| 30 | 17 | Ч | **Узнясенне** |
| 31 | 18 | П | Клаўдзіі |

## VI. ЧЭРВЕНЬ

| Стыль Новы | Стыль Стары | Дні | Праваслаўны |
|---|---|---|---|
| 1 | 19 | С | Карніла |
| 2 | 20 | Н | **Аляксея** |
| 3 | 21 | П | Алёны |
| 4 | 22 | А | Васілісы |
| 5 | 23 | С | Ігара |
| 6 | 24 | Ч | Сцяпана |
| 7 | 25 | П | Ізана |
| 8 | 26 | С | Карпа |
| 9 | 27 | Н | **Сёмуха** |
| 10 | 28 | П | Мікіты |
| 11 | 29 | А | Аляксандра |
| 12 | 30 | С | Васіля |
| 13 | 31 | Ч | Ярамея |
| 14 | 1 | П | Дыяніза |
| 15 | 2 | С | Нікіфара |
| 16 | 3 | Н | **Лук'яна** |
| 17 | 4 | П | Марфы |
| 18 | 5 | А | Ігара |
| 19 | 6 | С | Тэклі |
| 20 | 7 | Ч | Валерыі |
| 21 | 8 | П | Яфрэма |
| 22 | 9 | С | Тэклі |
| 23 | 10 | Н | **Антаніны** |
| 24 | 11 | П | Варфаламея |
| 25 | 12 | А | Ануфрыя |
| 26 | 13 | С | Акуліны |
| 27 | 14 | Ч | Ялісея |
| 28 | 15 | П | Міхала |
| 29 | 16 | С | Ціхана |
| 30 | 17 | Н | **Мануіла** |

## VII. ЛІПЕНЬ

| Стыль Новы | Стыль Стары | Дні | Праваслаўны |
|---|---|---|---|
| 1 | 18 | П | **Лявона** |
| 2 | 19 | А | Засіма |
| 3 | 20 | С | Мяфода |
| 4 | 21 | Ч | Цярэнція |
| 5 | 22 | П | Зінаіды |
| 6 | 23 | С | Язэпа |
| 7 | 24 | Н | **Іаана Прэдц.** |
| 8 | 25 | П | Ермалая |
| 9 | 26 | А | Дзяніса |
| 10 | 27 | С | Інесы |
| 11 | 28 | Ч | Івана |
| 12 | 29 | П | **Пятра і Паўла** |
| 13 | 30 | С | Сабор 12 Ап. |
| 14 | 1 | Н | **Дзяміна** |
| 15 | 2 | П | **Уліты** |
| 16 | 3 | А | Анатоля |
| 17 | 4 | С | Андрэя |
| 18 | 5 | Ч | Апанаса |
| 19 | 6 | П | Сяргея |
| 20 | 7 | С | Фамы |
| 21 | 8 | Н | **Пракопа** |
| 22 | 9 | П | **Св. Адрадж.** |
| 23 | 10 | А | Антона |
| 24 | 11 | С | Вольгі |
| 25 | 12 | Ч | Гаўрылы |
| 26 | 13 | П | Сцяпана |
| 27 | 14 | С | Анісіма |
| 28 | 15 | Н | **Уладзіміра** |
| 29 | 16 | П | Валянціны |
| 30 | 17 | А | Марыны |
| 31 | 18 | С | Амяльяна |

## VIII. ЖНІВЕНЬ

| Стыль Новы | Стыль Стары | Дні | Праваслаўны |
|---|---|---|---|
| 1 | 19 | Ч | Макрыны |
| 2 | 20 | П | **Ільі** |
| 3 | 21 | С | Сямёна |
| 4 | 22 | Н | **Марыі Магд.** |
| 5 | 23 | П | Трафіма |
| 6 | 24 | А | Барыса і Глеба |
| 7 | 25 | С | Ганны |
| 8 | 26 | Ч | Параскі |
| 9 | 27 | П | Панцеляймона |
| 10 | 28 | С | Прохара |
| 11 | 29 | Н | **Каленіка** |
| 12 | 30 | П | Валянціны |
| 13 | 31 | А | Еўдакіма |
| 14 | 1 | С | Макара |
| 15 | 2 | Ч | Васіля |
| 16 | 3 | П | Саламеі |
| 17 | 4 | С | Еўдакіі |
| 18 | 5 | Н | **Ноны** |
| 19 | 6 | П | **Спаса** |
| 20 | 7 | А | Пімена |
| 21 | 8 | С | Мірона |
| 22 | 9 | Ч | Мацвея |
| 23 | 10 | П | Рамана |
| 24 | 11 | С | Раісы |
| 25 | 12 | Н | **Фацея** |
| 26 | 13 | П | Ціхана |
| 27 | 14 | А | Міхея |
| 28 | 15 | С | **Усп. Пр. Баг.** |
| 29 | 16 | Ч | Якіма |
| 30 | 17 | П | Леўкі |
| 31 | 18 | С | Іларыёна |

## IX. ВЕРАСЕНЬ

| Стыль Новы | Стыль Стары | Дні | Праваслаўны |
|---|---|---|---|
| 1 | 19 | Н | **Андрэя** |
| 2 | 20 | П | Самуіла |
| 3 | 21 | А | Фадзея |
| 4 | 22 | С | Апанаса |
| 5 | 23 | Ч | Ірынея |
| 6 | 24 | П | Арсення |
| 7 | 25 | С | Ціта |
| 8 | 26 | Н | **Наталлі** |
| 9 | 27 | П | Пімена |
| 10 | 28 | А | Іова |
| 11 | 29 | С | **Усекн. Гл. І. Пр.** |
| 12 | 30 | Ч | Алякс. Неўск. |
| 13 | 31 | П | Хведара |
| 14 | 1 | С | Сямёна |
| 15 | 2 | Н | **Маманта** |
| 16 | 3 | П | Якіма |
| 17 | 4 | А | Майсея |
| 18 | 5 | С | Елізаветы |
| 19 | 6 | Ч | Макара |
| 20 | 7 | П | Лукі |
| 21 | 8 | С | **Нар. Пр. Баг.** |
| 22 | 9 | Н | **Ганны** |
| 23 | 10 | П | Пятра |
| 24 | 11 | А | Сяргея |
| 25 | 12 | С | Юльяна |
| 26 | 13 | Ч | Валерыяна |
| 27 | 14 | П | **Узн. Кр. Гасп.** |
| 28 | 15 | С | Максіма |
| 29 | 16 | Н | **Людмілы** |
| 30 | 17 | П | Веры, Надз. Л. |

## X. КАСТРЫЧНІК

| Стыль Новы | Стыль Стары | Дні | Праваслаўны |
|---|---|---|---|
| 1 | 18 | А | Софіі |
| 2 | 19 | С | Трафіма |
| 3 | 20 | Ч | Яўстрафія |
| 4 | 21 | П | Кандрата |
| 5 | 22 | С | Іоны |
| 6 | 23 | Н | **Іаана Хр.** |
| 7 | 24 | П | Тэклі |
| 8 | 25 | А | Сяргея |
| 9 | 26 | С | Івана |
| 10 | 27 | Ч | Марка |
| 11 | 28 | П | Нікана |
| 12 | 29 | С | Кірыяча |
| 13 | 30 | Н | **Рыгора** |
| 14 | 1 | П | **Пакр. Пр. Баг.** |
| 15 | 2 | А | Кастуся |
| 16 | 3 | С | Дзяніса |
| 17 | 4 | Ч | Пятра |
| 18 | 5 | П | Аляксея |
| 19 | 6 | С | Фамы |
| 20 | 7 | Н | **Пелагеі** |
| 21 | 8 | П | Таісы |
| 22 | 9 | А | Якава |
| 23 | 10 | С | Тэафіля |
| 24 | 11 | Ч | Піліпа |
| 25 | 12 | П | Карпа |
| 26 | 13 | С | Марціна |
| 27 | 14 | Н | **Назара** |
| 28 | 15 | П | Лук'яна |
| 29 | 16 | А | Лангіна |
| 30 | 17 | С | Лявона |
| 31 | 18 | Ч | Лукі |

## XI. ЛІСТАПАД

| Стыль Новы | Стыль Стары | Дні | Праваслаўны |
|---|---|---|---|
| 1 | 19 | П | Клеапатры |
| 2 | 20 | С | Арцёма |
| 3 | 21 | Н | **Іларыёна** |
| 4 | 22 | П | Аверкія |
| 5 | 23 | А | Якава |
| 6 | 24 | С | Апанаса |
| 7 | 25 | Ч | **Гад. В. Кастр.** |
| 8 | 26 | П | Дзмітрыя |
| 9 | 27 | С | Нестара |
| 10 | 28 | Н | **Іова** |
| 11 | 29 | П | Анастассі |
| 12 | 30 | А | Зіновія |
| 13 | 31 | С | Спірыдона |
| 14 | 1 | Ч | Дзям'яна |
| 15 | 2 | П | Акіндзіна |
| 16 | 3 | С | Язэпа |
| 17 | 4 | Н | **Нікапора** |
| 17 | 5 | П | Галакціёна |
| 19 | 6 | А | Паўла |
| 20 | 7 | С | Фядота |
| 21 | 8 | Ч | Міхала |
| 22 | 9 | П | Парфіра |
| 23 | 10 | С | Радзівона |
| 24 | 11 | Н | **Віктара** |
| 25 | 12 | П | Ніла |
| 26 | 13 | А | Іона |
| 27 | 14 | С | Піліпа |
| 28 | 15 | Ч | Гурыя |
| 29 | 16 | П | Мацвея |
| 30 | 17 | С | Рыгора |

## XII. СНЕЖАНЬ

| Стыль Новы | Стыль Стары | Дні | Праваслаўны |
|---|---|---|---|
| 1 | 18 | Н | **Платона** |
| 2 | 19 | П | Аўдзея |
| 3 | 20 | А | Рыгора |
| 4 | 21 | С | **Увядз. Пр. Багар.** |
| 5 | 22 | Ч | Філімона |
| 6 | 23 | П | Хведара |
| 7 | 24 | С | Кацярыны |
| 8 | 25 | Н | **Клімента** |
| 9 | 26 | П | Аліпія |
| 10 | 27 | А | Якава |
| 11 | 28 | С | Сцяпана |
| 12 | 29 | Ч | Парамона |
| 13 | 30 | П | Андрэя |
| 14 | 1 | С | Навума |
| 15 | 2 | Н | **Авакума** |
| 16 | 3 | П | Сафона |
| 17 | 4 | А | Варвары |
| 18 | 5 | С | Савы |
| 19 | 6 | Ч | **Мікалая Цуд.** |
| 20 | 7 | П | Амбражэя |
| 21 | 8 | С | Патапа |
| 22 | 9 | Н | **Ганны** |
| 23 | 10 | П | Мілы |
| 24 | 11 | А | Леанілы |
| 25 | 12 | С | Спірыдона |
| 26 | 13 | Ч | Яўгенія |
| 27 | 14 | П | Апалона |
| 28 | 15 | С | Анфісы |
| 29 | 16 | Н | **Агея** |
| 30 | 17 | П | Данілы |
| 31 | 18 | А | Зоі |

# ТРЫБУНА чытачоў

## УКРАІНСКІ КОНКУРС

Аддзел Украінскага таварыства ў Банях Мазурскіх (Голдапскі павет) урачыста адзначаў 50-ую гадавіну Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Аддзел шырока разгарнуў работу ў школах, у якіх навучаецца украінская мова. Для школьнай моладзі быў арганізаваны дэкламатарскі конкурс пад загалоўкам «Іх зрадзіла і натхніла рэвалюцыя».

Усіх школьнікаў, якія вучацца украінскай мовы ў Голдапскім павеце, налічваецца 280, а ў конкурсе ўзяло ўдзел 128 асоб. Найлепшыя дэкламатары са школ: у Банях Мазурскіх, Сцібёрках, Відгірах, Сурміне, Грыжэве, Дамброўцы Польскай і ў Лісах змераліся сваімі сіламі на павятовым аглядзе ў Банях Мазурскіх 26 лістапада. Кожны ўдзельнік агляду выступаў з вершам украінскіх паэтаў. У групе малодшых школьнікаў былі найлепшымі: В. Мачута, М. Іванэк, Д. Когут, Г. Брыла і Ю. Латаныпан. А найлепшымі дэкламатарамі з групы старэйшых аказаліся: В. Бучко, З. Когут, М. Іванэк, В. Баран, С. Гнат і В. Грыцук. Усе ўдзельнікі агляду атрымалі ўзнагароды.

**Богдан Назаровіч**
Бані Мазурскія

## «ЗАЛАТЫЯ» РУКІ

Так называюць людзі работу каваля Сымона Корха з Дубіч Царкоўных. Сымон Корх добра вядомы ўсім сялянам нашай ваколіцы і нават далёка за яе межамі. Чалавек гэты сваё жыццё звязаў з рамяством каваля. Ужо больш сарака год без перапынку працуе ў сваёй кузні. Штодзённа на панадворку каваля, каля яго кузні, пануе вялікі рух. Нехта прывёў каня падкаваць, нехта хоча акаваць гумовага воза, зрабіць сякеру, падкаваць санкі... Каваль зробіць работу чалавеку, ніколі не адкажа, заўсёды прыме і ў час выканае, і работа кожны раз зроблена чыста, добра. Не пералічыць, колькі плугоў, вазоў і іншых сельскагаспадарчых прылад каваль Сымон Корх **зрабіў за час сваёй** работы ў кузні, часта ў дыме і гарачыні, а часам і ў холадзе. Да нашага каваля прыязджаюць людзі з адлеглых вёсак. Гэта найлепш сведчыць аб тым, што Сымон Корх цешыцца вялікай пашанай не толькі ў сваёй мясцовасці, але далёка за яе межамі.

**М. Панфілюк**
Дубічы Царкоўныя

## ПАТРЭБНАЕ ЗГУРТАВАННЕ

У вёсцы Белкі, што ляжыць у Гайнаўскім павеце, ёсць многа маладых жанчын. Можна іх налічыць больш 30 асоб. Гэта многа, але што з таго, калі ў вёсцы няма жаночай арганізацыі. Тут варта падкрэсліць, што ў вёсцы Белкі ўжо існуе 6 гадоў сельскагаспадарчы гурток, які добра вядзе сваю работу. Але кіраўніцтва сельгасгуртка не падумала і нічога не зрабіла, каб у вёсцы дзейнічаў гурток вясковых гаспадынь. Ён мог бы арганізаваць які-небудзь патрэбны жанчынам курс. Напрыклад, курс пячэння і гатавання, альбо курс крою і шыцця. Варта, каб жанчыны з вёскі Белкі самі сур'ёзна падумалі аб сваіх справах і стварылі сваю жаночую арганізацыю.

**М. Лук'янюк**
в. Белкі

## ДБАЕ ТОЛЬКІ ПРА СЯБЕ

Старшыня грамадскай рады нарадовай у Галадах (Бельскі павет) зусім не дбае пра тое, каб у яго грамадзе былі добрыя дарогі, каб кожны год праводзіць іх рамонты, каб да гэтай працы арганізаваць грамадскія сялянскія сілы.

Быў я ў Галадах і размаўляў з людзьмі і кожны вельмі дрэна гаварыў аб старшыні ГРН. Не называюць яго нават па імені і па прозвішчы. Гавораць, што «далей свайго носа ён не бачыць!» Зрэшты, не мае ён часу на гэта. Мае старшыня машыну да воўны і гэтыя заработкі паглынаюць шмат часу. Часу будзе яшчэ менш у яго, бо на ўсю грамаду план кантрактацыі рапаку ён сам забраў. Сам 4 га рапаку мусіць дагледзець. Адным словам, галадоўскі старшыня дрэнна служыць для народа, для сваіх выбаршчыкаў.

**Рыгор Семянюк**
Райкі

## БІБЛІЯТЭЧНЫ ПУНКТ

У Трывежы ёсць бібліятэчны пункт. Знаходзіцца ён у хаце Веры Балтрымюк. Гэта ўжо старэйшая асоба, але яна цікавіцца кніжкамі і таму прыняла да сябе бібліятэчны пункт. Чытачоў у нас ёсць многа. Бяруць кніжкі і чытаюць дарослыя і дзеці. Чытачы ўдзячны для Веры Балтрымюк за прыкладную апеку над кніжкамі.

**Люцына з Трывежы**

(Працяг са стар. 4)

## «ЛЯВОНІХА» НА НОВЫМ ЭТАПЕ

дапаўняе гармонію. Вялікая ўвага звернута на чыстасць і выразнасць вымаўлення слоў. Некалі пішучы аб «Лявонісе» звяртала я ўвагу на гэтую справу. Яна кульгала ў «Лявонісе», яна наогул кульгае ў калектывах аматарскіх, а нават лепшых. Цяпер «Лявоніха» дае нам пасмакаваць не толькі прыемную мелодыю «Бабы Ёўкі», напрыклад, але слухаючы, разумеем таксама дасціпны тэкст песні.

Навасць, якой віншую «Лявонісе» — гэта заніканне салістаў у выданні тыповым, гэта значыць такіх спевакоў, якія раней пераважалі ў «Лявонісе», калі кожная песня выконвалася паасобна. «Лявоніха» зараз — гэта эстрада жыцця і згоднага гучэння многіх галасоў. Імклівая, поўная бліскучай інтэлігенцыі і свабоды. Галасы пераліваюцца, песні спяваюцца ў секстэтах (6 асоб), квінтэтах (5 асоб), квартэтах (4 асобы), трыё, дуэтах. Спяваюцца з жарам, горача.

Да песеннага рэпертуару асноўных прэтэнсій не маю. Хоць паўстрымацца цяжка ад маёй прадвечнай заўвагі, што беларуская эстрада і яшчэ не даспела, каб прыняць аблічча эстрады нацыянальнай па рэпертуару. Яе «інтэрнацыяналістычны» рэпертуар, якім, дарэчы, некаторыя, не разумею чаму хваляцца, здзіўляе кожнага, хто хоць крыху арыентуецца ў такога роду калектывах, а таксама ў нацыянальным пытанні. Зараз ёсць так, што на 24 песні — 11 беларускіх, 7 — рускіх, 4 — польскія, 2 — украінскія.

Юрка Шурбак дае свядома найбольш беларускіх песень, некаторыя ўжо аднак замоцна заспяваныя. Але Юрка Шурбак у «Лявоніце» 3 месяцы. І мае аграмадныя задаткі, каб пашырыць песенны беларускі рэпертуар, каб з пылу і забыцця павыцягваць цікавыя беларускія песні і наватарска іх паставіць у эстрадзе. Каб беларуская эстрада сталася ўрэшце беларускай эстрадай, ствараючай і накідаючай новы стыль у адносінах да беларускай культуры

**Вера Леўчук**

## МІХАЛОЎСКАЯ МАЛАЧАРНЯ

Меліярацыя сенажацяў і рэгулярнае мінеральнае ўгнаенне іх прычынілася да лепшых ураджаяў сена, а гэта ў сваю чаргу зрабіла вялікі ўплыў на развіццё жывёлагадоўлі. У раёне Міхалова значна больш цяпер гаспадары прадаюць малака для дзяржавы. І так, у невялічкай вёсцы Пянькі прадаецца яго штодзённа каля 2 тысяч літраў (менш прадаецца зімою). Малачарня ў Міхалове мае малака больш, як трэба. Таму яна зараз разбудоўваецца.

А калі ідзе гутарка аб малачарні, дык з яе сяляне маюць вялікія карысці. Сяляне забіраюць для свіней сыроватку, атрымоўваюць маслянку, а таксама спецыяльныя мяшанкі для быдла і цялят.

**Уладзімір Азябла**
Пянькі




**Дарагое Сэрцайка!**

Жыву я і працую на вёсцы. Мне 20 год. Пару год таму назад я пасябравала з хлопцам, які жыве таксама ў маёй вёсцы. Янэк гаварыў, што мяне моцна пакахаў, і што са мною ажэніцца. Ужо некалькі месяцаў, як ён пачаў сябраваць з дзяўчынай з суседняй вёскі. Да мяне прыходзіў рэдка. Пачаліся між намі непрыемнасці. Цяпер Янэк паехаў працаваць у горад. Прыслаў мне пісьмо. Што мне рабіць, адпісаць яму ці не?

За параду буду вельмі ўдзячна.

**Стася** з Сакольшчыны

**Дарагая Стася!**

Не пішаш, ці ты кахаеш Янка ці не. Не напісала ты, адкуль ты ведаеш, што твой хлапец ездзіў да іншай дзяўчыны і ці сапраўды ён лічыў яе сваёй нарачонай. Бывае ж, што можа мець сваячніцу ці добрую сяброўку. А людзі хутка ўмеюць зрабіць з мухі слана. Дакладна аб гэтым ты мне не напісала. Аднак нічога не перашкаджае адпісаць пісьмо Янку. Толькі памятай, хай яно будзе ветлівае і амбітнае. Гэта вельмі важнае.

**Сэрцайка**

## КАРЫСНЫЯ ПАРАДЫ

У Чыжах адбываюцца ў грамадскай святліцы лекарскія парады для сялян. Парады вядзе лекар медыцыны ў Чыжах Прэтыслаў Булава. Па парады прыходзіць многа насельніцтва з Чыжоў, а таксама з акалічных вёсак. Такія парады спаткаліся з вялікім адабрэннем і пашанай жыхараў Чыжоў, а таксама іншых вёсак.

**Янка Грамадскі**
Чыжы

## НОВЫ РАЁН



Пры вуліцы Навоткі ў Беластоку, паміж вул. Міцкевіча і ракой Белкай, расце новы жыллёвы раён. На першым плане справа жыллёвы будынак, у якім жыве 105 сем'яў.

Тэкст і фота В. Касакоўскі

## «ДЗІКІЯ» КНУРЫ

Многа дзяржава выдае грошай, каб палепшыць пагалоўе свіней. Аднак людзі не дацэньваюць гэтага. Амаль у кожнай вёсцы ёсць племянны кнур. Але і ў той жа вёсцы ёсць некалькі дрэнных «дзікіх» кнуроў. Стаўка за племяннога кнура 50 зл за пакрыццё мацёры, а за тыя «дзікія», як хто ўмее, 20 і 30 зл. Хаця гаспадары гэтых дзікіх кнуроў ведаюць, што могуць быць пакараны да 1 500 зл. за тэта, але рызыкуюць, бо ўсё ж такі маюць трохі даходу. Сяляне не выдаюць іх, таму што карыстаюць з гэтай зніжкі. Гаспадары зарэстраваных кнуроў, хаця ведаюць, што ў вёсцы ёсць «дзікія» кнуры, таксама маўчаць, бо не хочуць нажываць сабе ворагаў. Таму гэтую справу трэба ўзяць пад лепшы кантроль. Добра было б, каб зрабіць праверку ў некаторых вёсках. Тады хоць можа трохі баяліся б сяляне і не псулі пагалоўя свіней.

Чытач «Нівы»
з-пад Нараўкі

## НАЧНЫЯ ВАРТАЎНІКІ

Вёска Чыжы на Гайнаўшчыне налічвае каля 200 гаспадароў, а даўжыня яе 2,5 км. У нас выбіраюць пастаянных начных вартаўнікоў. У гэтым годзе вартаўнікамі з'яўляюцца Аляксей Кавальчук і Цімафей Башун. За цэлы год працы вартаўнікі ад кожнага гаспадара атрымаюць па 2 пуды жыта. Варта сказаць, што вартаўнікі вельмі добра вывязваюцца са сваіх абавязкаў. Сведчыць аб гэтым тое, што кожную ноч вартаўнікоў можна ўбачыць, як праходзяць па вуліцы, пільнуючы маёмасці гаспадароў.

Я. М.




Павятовая камендатура ў Сямяцічах 19 снежня атрымала паведамленне, што ў лесе пад Мельнікам ляжыць мёртвы чалавек. Пасля праверкі аказалася, што гэта жыхар Мельніка 61-гадовы Язэп Букрэвіч, гаспадар, у якога было 26 га зямлі. Раніцай 17 снежня выйшаў ён з хаты, гаворачы, што ідзе ў лес. Лекар сцвердзіў, што памёр ён ад разрыву сэрца.

Міліцыя ўстанавіла, што Уладзімір Шчарбак з Кляшчэляў у Гайнаўскім павеце даўжэйшы час займаўся браканьерствам. У выніку вобыску знайшлі ў яго 5 петляў на сарны.

У вёсцы Гукавічы ў Гайнаўскім павеце міліцыянеры з Нарвы прылапалі Мікалая Раманюка ў той час, як ён гнаў самагонку. Забралі яны ў самагоншчыка паўлітра самагонкі і самагоначную апаратуру.

У выніку вобыску, які сакольская міліцыя правяла ў Язэпа Нашэвіча з Крынак, знойдзена 19 кароўячых скурак падрыхтаваных да выпраўкі. Язэп Нашэвіч займаўся выпраўкай не маючы на гэта дазволу адпаведных улад. Скуркі міліцыя рэквіравала і перадала іх крынкаўскай гарбарні.

Жыхарку Ольштына, Яніну Аўчарчык, з Ольштына ў Беласток падвозіў уласнай «Варшавай» жыхар Беластока Віктар Кміта. У Беластоку Яніна Аўчарчык агледзелася, што ў яе ў ручным партфелі не хапае 4 тысячы злотых. У выніку следства беластоцкая міліцыя ўстанавіла, што грошы ўзяў Віктар Кміта. Паабяцаў ён аддаць украдзеныя грошы.

Гайнаўская міліцыя паддала пад міліцэйскі нагляд 50-цігадовага Кастуся Сураля з вёскі Махнатае, у Гайнаўскім павеце. Ён на працягу цэлага 1967 года страшэнна піў гарэлку і па-п'янаму знуткоўваўся над уласнай жонкай, сынам і нявесткай.

Асака

# КІНО

**Праграма**
**на 9 — 14.I.1968 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
,,Zwariowana noc'' (polski), 9—10. ,,Dr Fabrizus działa'' (NRD), 11—12. ,,Jowita'' (polski), 13—14.

**Кляшчэлі**
,,Życie zamku'' (franc.), 9—10. ,,Aleksander Newski'' (radz.), 11—12. ,,Bicz Boży'' (polski), 13—14.

**Дубіны**
,,Najazd czarnego księcia'' (radz.), ,,Ludzie w hotelu'' (USA), 13—14.

**Нараўка**
,,W poszukiwaniu wczorajszej miłości'' (węgierski), ,,Gwiazdy w morzu'' (radz.), 10—14.

**Нарва**
,,Pancernik Potiomkin'' (radz.), ,,Pluton 317'' (franc.), 10—14.

**Чыжы**
,,Iwan Groźny'' (radz.), I i II s. 10—14.

**Дубічы Царкоўныя**
,,Upiór z Morsville'' (czeski), ,,Ich dzień powszedni'' (polski), 10—14.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
,,Zejście do piekła'' (polski), ,,Człowiek z karabinem'' (radz.), 10—14.

**Орля**
,,Zielone światło'' (radz.), ,,Sami na wyspie'' (jugosł.), 10—14.

**Райск**
,,Matczyne serce'' (radz.), ,,Pierwszy dzień wolności'' (polski), 10—14.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
,,Kamo znany osobiście'' (radz.), ,,Kamo niebezpieczna misja'' (radz.), 9—12.

**Міхалова**
,,Szare kaczątko'' (radz.), 9—10. ,,Przed wojną'' (jugosł.), 11—12. ,,Kryptonim Nektar'' (polski), 13—14.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
,,Na pokładzie stanął kapitan'' (radziecki), 9—10. ,,Mroźny poranek'' (radz.), 11—12. ,,BS-38-15'' (NRD), 13—14.

**Шудзялава**
,,Wojenko, wojenko'' (polski), ,,Nikt śmiać się nie będzie'' (czeski), 10—14.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
,,Lebiediew contra Lebiediew'' (radziecki), 10—14.

**Новы Двор**
,,Zakochani są między nami'' (polski), 13—14.

**Ліпск**
,,Wrzesień 1939'' (polski), ,,Anioł błogosławionej śmierci'' (czeski), 13—14.

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. G-3. NAKŁAD 7897

